Падаткавы ШОК
4 стар.

Сустракайце: вашы суседзі - Докшыцы
6 стар.

8 Сакавіка -- свята жанчын
Старонка прысвечаная цалкам жанчынам
7 стар.


ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, ПАСТАВЫ, МЁРЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | № 10(101) 7 -- 13 сакавіка 2002 года | Кошт па дамове


# Са святам, дарагія жанчыны!

*Дарагія жанчыны! Мілыя сяброўкі, сястрычкі, матулі і бабулі!*

***Шчыра віншуем Вас з жаночым Днём 8 сакавіка. Жадаем, каб Вы ніколі не састарэлі душой, не былі скупымі на ласку і дабрыню, каб Вашы сэрцы, вочы, вусны квітнелі ад кахання, каб Вы мелі шчасце ў жыцці, лад і дабрабыт у сем'ях. А яшчэ жадаем, каб кожны дзень жыцця, паважаныя, быў для Вас святочным і радасным.***

*"ВГ"*

Усё ў жыцці здаецца проста,
На ўсё вы знойдзеце прычыны.
Як гэта цяжка быць дарослай,
Як гэта цяжка быць жанчынай.
Дачка сама адрэжа косы,
І расказаць ёй немагчыма,
Як будзе цяжка жыць дарослай,
І ў колькі раз цяжэй - жанчынай.

*В. Вярба, "Белыя пісьмы", 1987 г.*



## ІДЗЕ ЖАНЧЫНА ПА ЗЯМЛІ

8 сакавіка

Жанчына па Зямлі ідзе --
Давер святы ў вачах-азерцах.
Ні смутку, ні пакут у сэрцы
І свет, як добры чарадзей.
Вясёлы пошчак салаўіны,
Цвіцення час -- Вясна жанчыны.
Жанчына па зямлі ідзе --
У яркіх фарбах перспектыва.
Пачуццяў вір, чаканне дзіва
І той навек шчаслівы дзень,
Калі кахання песня спета.
Час спелых ніў -- Жанчыны Лета.
Жанчына па Зямлі ідзе --
Спакой у ясных воч блакіце.
Разгадка тайнаў і адкрыцці.
Здзяйсненне мар, мільён надзей,
А сэрца новых даляў просіць.
Пара пладоў -- Жанчыны Восень.
Жанчына па Зямлі ідзе --
Глыбокі роздум поўніць вочы,
І дабрыня душы прарочай
Святлом зыходзіць на людзей.
Як птушкі, кружаць успаміны.
Сняжынак час -- Зіма Жанчыны.
Ідзе Жанчына па Зямлі --
Цвітуць сады... красуе жыта...
Рабіна полымем заліта...
І снег ахутвае палі.
Чароўныя ва ўсе часіны
І веліч, і краса Жанчыны.

*Аркадзь НАФРАНОВІЧ*
*в.Камаі, Пастаўскі раён*



## Надвор`е*

Агляд складзены па дадзеных за 4/03/2002 0:00 GMT

| © Gismeteo.Ru | 7/3 ЧЦ | 8/3 ПТ | 9/3 СБ | 10/3 НД | 11/3 ПН | 12/3 АТ | 13/3 СР | 14/3 ЧЦ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +5 | +2 | +6 | +2 | +5 | +7 | +7 | +4 |
| з 2 гадзін | +3 | +2 | 0 | +3 | 0 | +3 | +2 | +4 |
| Ціск, мм рт.сл. | 728 | 733 | 738 | 744 | 751 | 755 | 752 | 754 |
| Тэндэнцыя ціску | -12 | +5 | +5 | +7 | +7 | +4 | -3 | +2 |
| Накірунак ветру | Пд-З | Зах | Пд | Зах | Пд-з | Пд | Пд-з | Пн-З |
| Хуткасць ветру, м/с | 9 | 10 | 7 | 8 | 5 | 4 | 4 | 4 |

Заўвага: прагноз надвор'я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

*Шчыра вітаю беларусак са святам Вясны, маладосці, кахання і надзеі! Жадаю вясновых радасцей, дабра ў душэ і хаце.*

Вітаю сталую аўтарку газеты "Вольнае Глыбокае" Сафію Табола за душэўныя споведзі і разам з ёй вітаю ўсіх руплівых працаўніц вёсак азёрнага краю.

Вы заслугоўваеце лепшай долі, часцей усміхайцеся, падымайце вочы да сінега-сінега неба, часцей задушэўна спявайце, як умееце спяваць на Святую Пасху жанчыны вёскі Падгаі. Будзьце больш патрабавальнымі да сваіх начальнікаў і да самога старшыні вялікага калгаса па забяспечванню годнага заможнага жыцця.

*Малады-стары дзед Г. Плавінскі, в. Чачалі.*

23.02.02

# Віншуем Вас, *мілыя, дарагія, каханыя!*

**Свята 8 Сакавіка -- самы пачатак вясны, калі кожны рыцар прысвячае сваёй даме сэрца лепшыя пажаданні, падарункі, кветкі. У гэты дзень мы віншуем сваіх родных: маці, сясцёр. Ім мы прысвяцілі і наша апытанне.**



**Бухараў Сяргей:** Я віншую ўсіх дзяўчат, якія вучацца ў нашай школе, усіх школьніц і студэнтак. А таксама хачу павіншаваць са святам сваю маму і пажадаць ёй, каб яна была заўсёды шчаслівай і здаровай.



**Аляксандр Міхалевіч:** Хачу павіншаваць са святам 8 Сакавіка сваю дзяўчыну Вольгу, якую я вельмі кахаю і жадаю ёй кахання, шчасця і здароўя.



**Сяргей:** Я хачу павіншаваць з 8 Сакавіка Вярцінскую Валянціну і сказаць, што я яе кахаю. Жадаю ёй усяго самага найлепшага.



**Сурвіла Дзіма:** Віншую ўсіх жанчын і дзяўчат з 8 Сакавіка, жадаю ім усяго таго, што яны самі жадаюць. Галоўнае -- здароўя, бо ўсё астатняе ў нашым жыцці можна купіць.



**Ліпскі Павел:** Віншую сваю маму са святам 8 Сакавіка, а таксама ўсіх вучаніц СШ№2.



**Шаматкоў Міхаіл:** Спачатку я хачу павіншаваць дачку з Днём нараджэння, якое было 28 лютага. У мяне самаго Дзень нараджэння 8 сакавіка. Віншую таксама ўсіх жанчын са святам. Грошы зараз мала ў людзей, таму жадаю ім , грошы пабалей, а таксама здароўя, шчасця, міру, каб вайны не было.

---

# Ён адкрыў нам праўду пра Краіну Замкаў

**Заморскія вандроўнікі, якія ў сярэднявеччы праязджалі праз Беларусь, былі ўражаны вялікай колькасцю замкаў, якія стаялі ледзве не ў кожным мястэчку.... Яны так і празвалі, Беларусь -- Краіна Замкаў.**

**У перыяд Паўночнай вайны ў 1700 годзе горад моцна пацярпеў ад жорсткага пажару, а таксама ад рабаўніцтва саксонскага войску. Магістрат Глыбокага абавязаў у 1704 г. усіх домаўласнікаў для абароны "ад гвалтаў саксонскіх мечь кожнаму ў хаце сваёй бярдыш ці алебарду, ці якую іншую зброю або таксама ружжо, што будзе правярацца на свята Св. Міхаіла". У мэтах супрацьпажарнай бяспекі мяшчане па чарзе абавязваліся ноччу дзяжурыць і хадзіць па горадзе, заклікаючы ўсіх да асцярожнага абыходжання з агнём. Пад пагрозай штрафу ў 10 коп грошаў домаўласнікі павінны былі мець у хаце драбіну і чан, запоўнены вадой. Пячныя трубы прачышчаліся раз у квартал пад наглядам войта і падвойскага. На кожнай вуліцы павінны былі быць дзве пажарныя бусакі, яшчэ чатыры бусакі пастаянна знаходзіліся на базары.**

*М.А. Ткачоў, "Замкі і людзі", Мінск, "Навука і тэхніка", 1991 г.*

## 10 сакавіка Міхасу Ткачову было б 60 год

Міхась Ткачоў нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Мсціслаўі. Яго бацька Аляксандр Рыгоравіч Ткачоў так і не пабачыў свайго адзінага сына, бо загінуў у 1942-ім пад Ленінградам, тым самым годзе, калі нарадзіўся яго сын.

Потым у Міхася з'явілася новая сям'я, і ён разам з другімі дзецьмі і айчымам -- афіцэрам Савецкай Арміі -- жыў некаторы час у Нямеччыне. Пасля завяршэння вайсковай службы айчыма, уся сям'я пераехала ў Мсціслаў. Тут Міхась Ткачоў скончыў школу.

Затым ён паспяхова здаў уступныя экзамены на гістарычны факультэт БДУ, але не быў залічаны, бо не меў двухгадовага працоўнага стажу, які, па меркаванню ідэолагаў таго часу, гарантаваў адданасць абітурыентаў справе пабудовы камунізму. Яму прапанавалі вучыцца завочна. Ткачоў пагадзіўся. Да вясны 1960 года "зарабіў" неабходны стаж у прыгарадным калгасе і перавёўся на стацыянар. Ва ўніверсітэце адбылося і першае прызнанне Ткачовагісторыка: яго дыпломная работа, прысвечаная роднаму Мсціслаўю, была ацэнена на "выдатна" і рэкамендавана да друку.

Размеркаванне ў Жодзіна выкладчыкам гісторыі, дзе ён хутка становіцца завучам школы, жэніцца. Міхась Ткачоў падае дакументы ў аспірантуру Інстытута гісторыі Акадэміі навук.

Усе ўступныя экзамены здае на "выдатна", але на жадаемую спецыяльнасць яго не залічваюць. Яму шчыра спачувае сакратар аддзялення грамадскіх навук Пятро Глебка і раіць стаць аспірантам па непапулярнай у той час спецыяльнасці -- археалогіі.

І тут адбываецца неверагоднае. За тры гады малады навуковец раскапаў і абследаваў рэшткі 13 каменных абарончых збудаванняў. Сярод якіх -- Камянецкая вежа, замкі ў Лідзе, Крэве, Гродне, Міры, Гальшанах, Навагрудку. У архівах і бібліятэках Міхась Ткачоў адшукаў матэрыялы, да якіх раней не дакранаўся ніводзін даследчык. Дысертацыю **"Ваенное дойлідства Беларусі XIII -- XVIII стст."** ён піша на беларускай мове і пасяхова бароніць яе ў 1972 годзе. Заўважце -- рабілася гэта ўсё ў Жодзіне, і штодня трэба было дабірацца электрычкай да Мінска.

Манаграфія Міхася Ткачова **"Замкі Беларусі"** пабачыла свет у 1977 годзе. Гэта -- выніkі працы ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук. Кніга прынесла аўтару шырокую вядомасць і прызнанне як на радзіме,





**Памятны каляндарык, выдадзены Таварыствам беларускай мовы да 60-гадовага юбілею Міхася Ткачова**

так і ў замежжы.

У 1978 годзе Міхась Ткачоў пераязджае ў Гродна, дзе працуе ва універсітэце. Спачатку дацэнтам, а потым -- загадчыкам кафедры. У 1987 годзе абараняе доктарскую дысертацыю на тэму **"Арганізацыя абароны гарадоў Беларусі XIV -- XVIII стст."**

У 1986 годзе разам з супрацоўнікамі Інстытута біяхіміі АН БССР і выкладчыкамі Гродзенскага універсітэта Ткачоў стварае ў Гродне клуб аматараў гісторыі і культуры Беларусі "Паходня". Пасяджэнні клуба праводзіліся шточацвер. На іх збіралася пераважна моладзь, а таксама людзі рознага ўзросту, якія цікавіліся беларускай гісторыяй. Тут выступалі слынныя беларускія гісторыкі, пісьменнікі і навукоўцы. Вясной і летам сябры клуба выязджалі ў вандроўкі па родным краі, удзельнічалі ў археалагічных раскопках.

Міхась Ткачоў быў гарачым прыхільнікам беларускага нацыянальнага адраджэння, і гэта прываблівала моладзь. Разам з маладымі і сталымі сябрамі Ткачоў актыўна ўключаецца ў палітычнае жыццё краіны: у 1988 годзе ўваходзіць у аргкамітэт па стварэнні Беларускага Народнага Фронту, а потым на I з'ездзе гэтага руху ў Вільні абіраецца намеснікам старшыні БНФ.

Штодзённае напружанае, складанае жыццё і цяжкая хвароба падкасілі гэтага волата беларускага адраджэння. 31 кастрычніка 1992 года яго не стала.

Праца М. Ткачова адкрыла для нас новую, дакладней, -- спрадвечную Беларусь. Ён літаральна адкапаў у беларускай зямлі, на паліцах архіваў, бібліятэк і запасніках музеяў праўду аб краіне замкаў, інтэлектуалаў, славутых абаронцаў і барацьбітоў за Бацькаўшчыну.

Плённа займаўся Міхась Ткачоў і адраджэннем беларускай сацыял-дэмакратыі. У 1990 годзе ён узначаліў аргкамітэт па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, у сакавіку 1991 г. быў абраны кірўніком адроджанай партыі на яе ўстаноўчым з'ездзе. Грамада -- "партыя Ткачова" -- хутка стала ўплывовай палітычнай сілай, стварыла фракцыю ў Вярхоўным Савеце Беларусі.

Толькі 50 гадоў было адмерана лёсам Міхасю Ткачову. Цяжка знайсці гісторыка, які б да такога ўзросту зрабіў так шмат. Ён і сёння нас многаму вучыць як даследчык, вучоны, палітык, педагог і грамадскі дзеяч.

10 сакавіка -- 60-я ўгодкі яго нараджэння і 10 год, як яго не стала з намі. Свежыя кветкі перад яго помнікам на Маскоўскіх могілках сведчаць аб тым, што ў думках і сэрцах людзей свята захоўваецца памяць аб славутым грамадзяніне незалежнай Беларусі, які шчыра любіў сваю Радзіму і так шмат зрабіў для Бацькаўшчыны.

# Рэгіён



Нэагатычны касцёл у Паставах, пабудаваны ў 1880 - 87 гг. Архітэктар А. Гойбель

Фота Ул. Скрабатуна

## Віцебская Камерцыйная Гільдыя

16 студзеня 2002 года па ініцыятыве групы прадпрымальнікаў, гандлюючых на рынках 11гарадоў вобласці, — Браслаў, Віцебск, Глыбокае, Гарадок, Докшыцы, Лепель, Полацк, Паставы, Расоны, Ушачы, Чашнікі – утворана "Віцебская Камерцыйная Гільдыя". Гільдыя – таварыства утворанае дзеля абароны інтарэсаў сваіх сяброў. Задачы гэтага прафсаюза ў наступным:

1. Забяспечыць нармальныя, а па магчымасці, і камфортныя ўмовы для працы.
2. Утварыць умовы для магчымасці развіцця прыватнай ініцыятывы і прадпрымальніцтва.
3. Аказваць бясплатную юрыдычную, арганізацыйную і неадкладную дапамогу сябрам Гільдыі.

Фінанасаванне дзейнасці Гільдыі адбываецца за кошт прафсаюзных узносаў. Для забяспячэння эфектыўнай работы ствараецца апарат Гільдыі, які складаецца з юрыстаў, бухгалтара і інструктара.

Жадачым далучыца да дзейнасці прафсаюза раім звярнуца да прыватнага прадпрымальніка Л.С. Сцежкінай.

*Я.Берніковіч*

## На зямлі абяцанай

**З масай незабыўных ураджанняў вярнуўся з вучэбнай паездкі па Ізраілю старшыня калгаса імя "17-га Верасня" Анатоль Пачопка, аднаго з лепшых у Глыбоцкім раёне.**

У складзе групы з 35 практыкаў, якія прадстаўлялі 11 дзяржаў СНД і Прыбалтыкі, паўтары месяцы вывучаў ён там асновы бізнеса і досвед селкагаспадарчай дзейнасці. Больш усяго старшыню з Глыбоччыны прывабілі тамашнія фермы, дзе гадавыя надоі малака дасягаюць 11-12 тысяч тон на адну карову. Уразіў навуковы падыход у кібуцах па вядзенню спраў на зямлі, ступень механізацыі іх вытворчасці, якая дазваляе атрымліваць два ўраджаі за год. Апроч лекцый гасцям семінара падрыхтавалі вялікую культурную праграму. Разам са сваімі калегамі, фермерамі з іншых краін наведаў Пачопка святы горад Назарэт, Галілейскае мора, Ерусалім, шэраг храмаў і другія слынныя мясціны, якія звя-заны з жыццём і дзейнасцю Ісуса Хрыста.

*У. Шык*



Варганская гара

Варганская гара знакаміта ў нашым краі не толькі як археалагічны помнік, дзе захаваліся рэшткі старажытнага жытла, але і тым, што 15 тысяч гадоў таму назад тут, паміж Глыбокім і Докшыцамі, праходзіла мяжа апошняга, Валдайскага аледзянення, якое пакінула пасля сябе шматлікія азёры. *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Вяртанне ў маладосць

**Як самага дарагога госця сустракалі нядаўна ў Докшыцкай СШ №1 свайго выпускніка, а цяпер буйнейшага спецыяліста лазернай фізікі, доктара фізіка-матэматычных навук Паўла Апанасевіча.**

У вялікае жыццё хлопчык з вёскі Стараселле з гэтых сцен адправіўся ў далёкім 1949 годзе. Асабліва прыемна было ганароваму дырэктару інстытута фізікі, аўтару трохсот навуковых прац, лаўрэату Дзяржаўных прэмій СССР і БССР пабачыцца з двума сваімі былымі настаўнікамі. Нягледзячы на шматлікія тытулы і званні, вядомасць у навуковым свеце, палкупіў Павел Андрэевіч усіх, хто сабраўся, сваёй добразычлівасцю, прастатой і эрудыцыяй. Разам з юнымі фізікамі і матэматыкамі з ліцэйскіх класаў пажадалі пагутарыць з прафесарам дзесяткі іншых вучняў школы. Парадавала знакамітага земляка паведамленне, што і цяпер мясцовая моладзь імкнецца да ведаў і больш 400 выпускнікоў школ краю вучацца ў прэстыжных ВНУ краіны.

## Багатыя таксама плачуць

**Здавалася б, стварыўшы запас кармоў на паўтары гады наперад і маючы адных высокаўдойных кароў, працаўнікам калгаса імя Кутузава Шаркоўшчынскага рўна грэх на жыццё скардзіцца.**

Надоі малака на карову ў 15 даярак у сярэднім па 4219 літраў за год такія, што аб гэтым толькі і марацъ іншым на Беларусі, каб дасягнуць такіх вынікаў. У цяперашнюю зімоўку за дзень гаспадарка прадае больш 4 тон першакласнага сырадою, зарабляючы па мільёну рублёў. Аднак заміж грошаў малаказавод дае толькі абяцанні пагасіць запазычанасць за сыравіну, якая перавышыла 30 млн. рублёў. Таму складана своечасова выплаціць людзям заробак і вярнуць зароблёнае ў краі, зважаючы на запазычанасць Глыбоцкага МКК, якая перавышыла 160 млн. рублёў.

**У.Шык**

## Былога глыбоцкага ксяндза Уладыслава Завальнюка падтрымаў Папа Рымскі

Пасля закрыцця хрысціянскай радыёперадачы "Голас душы", якую вёў ксёндз Уладыслаў Завальнюк, на Беларусі пачаўся збор подпісаў за аднаўленне гэтае перадачы. Подпісы збіраюцца і ў Глыбокім, як сярод каталікоў, так і сярод праваслаўных. Маральную падтрымку ў гэтай справе Уладыслаў Завальнюк атрымаў ад Папы Рымскага Яна Паўла II. Вернікі нашай краіны не перапыняюць збор подпісаў пад зваротам да найвышэйшага кіраўніцтва краіны з патрабаваннем аднавіць хрысціянскую радыёперадачу.

## Надвор`е ставіць падножку

**Калі больш ранні зыход зімы шмат каго радуе, дык анамальна цёплае надвор`е практычна паралізавала прадукцыйную дзейнасць Пастаўскага лесаўчастка аб`яднання "Маладзечналес".**

З-за раскіслых дарог стала немагчыма дастаўляць з лесу драўніну. Спынілі працу пілярамы, перасталі нарыхтоўваць дровы для насельніцтва. У калектыве не выключаюць, што прыйдзецца большую частку работнікаў адправіць па дамах. Пакуль у складаных палявых умовах на дзвюх дзялянках нарыхтоўваюць лес 30 работнікаў. Толькі калі падсохнуць дарогі, вярнуцца ў лес машыны-лесавозы.

*У.Шык*

## Ліза, Даніла, а таксама Яна

**З 245 вяселляў, якія сыграны ў Глыбокім за мінулы год, самым вясёлым стаўся лістапад, калі ў сямейнае жыццё ўступілі адразу 38 маладых пар.**

Новы час уносіць свае карэктывы, і сярод тых, хто заключыў шлюб, былі не толькі грамадзяне Беларусі, але і Расіі, Аўстрыі, Малдовы, Украіны і прыбалтыйскіх краін. Затое ў сельскай мясцовасці цяпер шлюбы рэдкасць, іх за год зарэгістравана толькі 72. Змяніліся і імёны. Сярод 364 народжаных больш усяго называліся: Лізы, Мікіты, Данілы, Яны, а таксама Улляны і Ксені. У параўнанні з 2000 г. колькасць зарэгістраваных шлюбаў узрасло на 48, а разводаў зменшылася на 23 выпадкі. Аднак, як і раней інстытут сям`і перажывае цяжкія часіны, на кожных 100 створаных сем`яў прыйшлося 43 разводы. Не спяшаюцца сем`і з-за матэрыяльных цяжкасцяў нараджаць дзяцей, таму лік памерлых пераўзышоў колькасць народжаных на 612 чалавек.

*У.Шык*

## Прыватнік рызыкуе і выйграе

**У шэраг даўгабуду патрапіла ў саўгасе "Сітцы" Докшыцкага раёна ўзвядзенне 3 жылых дамоў, якія будаваліся сіламі гаспадаркі.**

Зважаючы на тое, што на дапамогу з боку спадзявацца няма сэнсу, яшчэ 13 тутэйшых сем`яў самі вырашылі ўзвесці сабе жыллё, часткова скарыстаўшы крэдыты дзяржавы. І ў іншых месцах людзі зразумелі, што лепш у жыцці цяпер спадзявацца толькі на сябе і родных, чым на дзяржаву. Дзякуючы намаганням прыватных забудоўшчыкаў, раёну ўдалося выканаць за мінулы год праграму жыллёвага будаўніцтва. З узведзеных 107 новых кватэр у Бярэзінскім краі 70 пабудавалі самі навасёлы. Па лініі гаспадарак (іншыя ў раёне нічога не будуюць за выключэннем дома МЖБК-3 на 64 кватэры) у незавяршонцы заста-лося 24 жылых дамы. Разам з тым прыватнікі працягваюць тут будаваць сабе 250 дамоў, што дае некаму нагоду ў прапагандысцкіх мэтах казаць аб поспехах у дадзенай сферы.

Гісторыя Глыбоччыны ў асобах

## Янка Гінько -- нацыяналіст з Загор`я

**У студзені споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Янкі Гінько, актыўнага ўдзельніка беларускага нацыяналістычнага руху падчас Другой сусветнай вайны.**



Янка Гінько нарадзіўся 3 студзеня 1912 года ў вёсцы Загор`е Залескай гміны на Дзісеншчыне (цяпер Глыбоцкі раён) у праваслаўнай сям`і Піліпа і Анастасіі Гінько. Адукацыю пачаў здабываць у Глыбокім, дзе ў 1927 годзе скончыў 7-гадовую школу, а ў 1931-ым -- глыбоцкую прыватную гімназію імя Люблінскай уніі. У 1931 годзе ён паступае ў Варшаўскую політэхніку. Спачатку вучыцца на геадэзічным факультэце, а пасля пераводзіцца на інжынерны факультэт. Менавіта падчас вучобы ў Варшаве Янка Гінько ўсведамляе сябе беларусам, далучаецца да беларускага руху. Праўдападобна, немалая заслуга ў гэтым была студэнта політэхнікі Міхаіла Вітушкі і выкладчыка, прафесара Вацлава Іваноўскага.

У 30-ыя гады Я. Гінько быў актывістам Асветнага Таварыства Беларусаў у Варшаве, незалежніцкага Аб`яднання Беларускіх Студэнцкіх Арганізацый. Увосень 1939 года ён вяртаецца ў родныя мясціны, працуе па сваёй спецыяльнасці на Усходняй Беларусі. Падчас нямецкай акупацыі ён становіцца старшынёй Беларускай Народнай Самапомачы ў Глыбоцкай акрузе.

Янка Гінько ўжо напачатку нямецкай акупацыі далучаецца да нацыянальнага падполля, становіцца сябрам Цэнтральнага камітэта нелегальнай антыфашысцкай і антыбальшавіцкай Беларускай Незалежніцкай Партыі, працуе ў палітычнай рэферэнтуры партыі, піша артыкулы ў "Бюлетэнь БНП".

Летам 1944 -га ва Усходняй Прусіі ён уступае ў беларускі дэсантны батальён "Дальвіц", удзельнічае ў падрыхтоўцы кіраўнічых кадраў беларускага антыбальшавіцкага руху і заснаванні Беларускай Вайсковай Арганізацыі. У лістападзе 1944-га Я. Гінько разам з групай "Дальвіца" дэсантуецца на Гарадзеншчыне. Праз месяц, падчас сутычкі з бальшавіцкімі вайсковымі падраздзяленнямі, ён быў захоплены савецкай дзяржбяспекай, прайшоў праз савецкія канцлагеры, з якіх вызваліўся ў 1956 годзе. Жыў у Інце (Комі АССР), пасля -- у Маскве. Падтрымліваў сувязі з паброцімамі з БНП і "Дальвіца", бываў на Беларусі. Памёр беларускі нацыяналіст з Загор`я ў 1980-ыя (?) гады.

**Ян Каваль**

# Пабольш бы такіх людзей

**25 гадоў працуе настаўніцай рускай мовы і літаратуры Будзіч Ала Аляксандраўна ў сярэдняй школе №3г.Глыбокае, а яе працоўны стаж складае больш трыццаці год.**

Усе, і вучні, і калегі па працы, паважаюць яе за працавітасць і сумленнасць. Нядаўна яна прымала віншаванні з юбілеем. Надышоў хвалюючы час. Трэба ісці на адпачынак. Але ці магчыма гэта ўявіць? Той, хто бачыць Алу Аляксандраўну зараз, успрымае яе як выдатнага спецыяліста, умудронага гадамі выхавальніка, строгую патрабавальную настаўніцу, якая ўсё сваё жыццё аддала любімай справе.


*Фота А.Храпавіцкага*

Але за ўсім гэтым яшчэ бачу другую Алу Аляксандраўну, тую, якая ў 1965 годзе зайшла ўпершыню ў наш клас. Светлавалосая, у белым касцюме, стройная, як з журнальнай вокладкі з'явілася наша фея, якая асвяціла сваім вобразам наша дзяцінства. Мы даведаліся, што нашы мясціны вельмі маляўнічыя і маюць цікавую гісторыю, бо кожную вясну мы ішлі на мясцовыя ўгоркі, вымяралі іх вышыню, спявалі песні каля вогнішча, гулялі ў розныя цікавыя гульні. А зімой ладзілі тэатралізаваныя выступленні для мясцовых жыхароў, рыхтавалі канцэрты. І заўжды арганізатарам усяго была Ала Аляксандраўна. Я не спыняла здзіўляцца: наша настаўніца ўмела ўсё: і танцаваць, і спяваць, і цікава расказваць, што падчас было прыкра, калі звінеў званок.

Мы так прывыклі да сваёй настаўніцы, што ледзь не плакалі ад рэўнасці, калі яна сабралася выходзіць замуж. Мы баяліся, што нас яна пакіне (дзеці ж усе крыху ўласнікі). Але ў 1972 годзе мы развіталіся са школай і з нашай любімай настаўніцай, якая нас не пакінула, а для некаторых з нас стала жыццёвым арыенцірам.

І калі б не давялося сустрэцца са сваімі аднакласнікамі заўсёды кожны спытае: "Як Ала Аляксандраўна? Ці змянілася яна?" Я заўсёды адказваю: "Вы напэўна жартуеце. Ала Аляксандраўна ніколі не зменіцца душой.

***Паважаная Ала Аляксандраўна!***

*Я ад імя ўсіх вашых вучняў віншую вас з 8 Сакавіка. Жадаю Вам здароўя, балзёрасці, аптымізму. Ведайце, што Вы самая яркая старонка ў нашым жыцці.*

***З павагай***
***Настаўніца рускай мовы і літаратуры, Храпавіцкая Ф.С.***

# Падаткавы шок

**Не аднойчы даводзілася пісаць пра справы перагоншчыкаў аўтамабіляў, так званых гоншчыкаў, якія закупляюць за мяжой легкавыя аўтамабілі замежных марак, пераганяюць іх на Беларусь, растаможваюць і потым найчасцей прадаюць праз мінскі кірмаш. У Паставах гэты бізнес расцвіў з некалькіх прычын: блізкая мяжа, адносна высокае беспрацоўе. А самае галоўнае, пасля выводу шматлікіх вайсковых часцей тут засталіся маладыя, адукаваныя былыя вайскоўцы, якія па тых альбо іншых прычынах не паехалі даслужваць у Расію. Яны паклалі пачатак гэтаму бізнесу. З цягам часу да іх далучыліся і гоншчыкі мясцовага паходжання. Сёння, дарэчы, гэтай справай займаецца нямала людзей у Глыбокім, Шаркоўшчыне.**

Па-рознаму можна адносіцца да такога занятку. З аднаго боку гоншчыкі ачышчаюць абсягі Еўропы ад старых аўтамабіляў, звозячы іх да нас. Ды яшчэ зарабляюць на гэтым і, па чутках, зарабляюць немалыя грошы. З другога боку, аўтамабіль замежнай фірмы, хаця ён і не новы, выгадна адрозніваецца ад звычных раней "масквічоў" і "жыгулёў". І гоншчыкі ж прыносяць дзяржаве немалыя грошы ў выглядзе мытных і іншых падаткаў.

Вось пра падаткі і пойдзе размова. Сёння каля пяцідзесяці гоншчыкаў з названых вышэй раёнаў перажываюць сапраўдны шок. Прыводжу толькі адзін прыклад. В.Саўчук займаўся справай перагону аўтамабіляў з-за мяжы на працягу 2000-2001 гадоў. Нібыта ўсё ішло добра. Ён быў індывідуальным прадпрымальнікам, плаціў за гэта падаткі, плаціў і вельмі немалыя грошы за так званую растаможку машын. Канешне, меў прыбыткі, прадаючы іх потым. Але вось у студзені гэтага года атрымаў з Полацкай мытні рашэнне, у якім яму паведамлялася, што да яго прадпрымаюцца эканамічныя санкцыі ў памеры 23 мільёнаў 869 тысяч 376 рублёў. Канешне, будзе шок. Пераводзіце гэтыя грошы ў так званыя ўмоўныя адзінкі, атрымаецца недзе каля пятнаццаці тысяч. Гэта грошы! Кожны больш менш дасведчаны ў гэтай справе чалавек скажа, што гоншчык можа атрымаць за аўтамабіль да трохсот долараў прыбытку. У самым лепшым выпадку. А то і значна менш, а то і ўвогуле мінус, калі прагледзеў тайны дэфект аўтамабіля, а пакупнік яго заўважыў. Што там – кірмаш ёсць кірмаш. І раптам столькі даплаціць!

Між тым рашэнне Полацкай мытні адназначнае: *"На працягу 2000-2001 г.г. індывідуальны прадпрымальнік Саўчук В.А. увозіў і афармляў як асабістую маёмасць з уплатай мытных плацяжоў па адзінай стаўцы 0,35 еўра за 1 куб. см. аб'ёму рухавіка легкавыя аўтамабілі. 15 аўтамабіляў былі прададзены ў ходзе здзяйснення прадпрымальніцкай дзейнасці, з прыбытку ад продажу заплачаны падатак па фіксаванай (цвёрдай) стаўцы.*

*Індывідуальным прадпрымальнікам Саўчук ом В.А парушаны ар.126, ар. 168, ар.119 і ар.31 Мытнага кодэксу Рэспублікі Беларусь ад 06.01.1998 г., прадпісваючы прымяняць да тавараў, якія па свайму характару не адносяцца да асабістай маёмасці, агульны парадак і ўмовы тарыфнага і нетарыфнага рэгулявання, падаткаабкладання і мытнага афармлення."*

А раз было парушэнне – эканамічныя санкцыі, якія складаюцца з сум даналічаных плацяжоў за мытную пошліну, акцыза, падатка на дабаўленую вартасць, пені на іх і саміх эканамічных санкцый. Пазіцыя вытлумачальная: раз запазычыў дзяржаве — плаці, як кажуць, па поўнай праграме. Усё па закону, у адпаведнасці з Мытным кодэксам, прынятым яшчэ ў 1998 годзе.

Вось на гэтай даце і спынімся. Дзейнічае кодэкс ужо пяты год. Калі па-просту, асноўнае яго палажэнне, што тычыцца ўвозу аўтамабіляў, у тым, што калі ты выганяеш яго для ўласнага карыстання, то плаці за кубічны сантыметр аб'ёму рухавіка 0,35 еўра. Калі ж ты выганяеш аўтамабіль з мэтай яго далейшага продажу—плацяжы непараўнальна большыя.

Дарэчы, усе пяцьдзесят чалавек, якія неўзабаве атрымаюць ці ўжо атрымалі падобныя рашэнні Полацкай мытні, не хавалі таго, што яны займаюцца перагонкай аўтамабіляў з мэтай продажу. Яны мелі ліцэнзіі індывідуальных прадпрымальнікаў, дзе адным з пунктаў прама запісана: " закупка і рэалізацыя аўтамабіляў".

Чаму ж не плацілі, як належыць?

А з іх і не патрабавалі два мінулыя гады. Інакш як можна растлумачыць тыя факты, што некаторыя гоншчыкі перасякалі мытныя пасты ў Пастаўскім раёне літаральна кожны тыдзень, усе гэтыя дадзеныя заносіліся ў камп'ютэр. Падаткавая інспекцыя рэгулярна брала ў Пастаўскай мытні спісы пераганных машын кожным з гоншчыкаў, кантралявала выплату падаткаў. І ніхто не звярнуў увагі на такія вялізныя недаплаты. А яны толькі па Пастаўскай мытні могуць сягнуць да мільёна долараў. Як маглі на працягу двух гадоў службоўцы не заўважаць таго, колькі губляе дзяржава? Справа яшчэ і ў тым, што калі б яшчэ на пачатку 2000 года гоншчыкам прапанавалі плаціць так, як патрэбна, то ўсе яны імгненна б адмовіліся ад свайго бізнесу. Стала б проста нявыгадна.



*Фота IREX ProMedia*

Ды атрымалася так , што толькі 31 кастрычніка 2001 года з той жа Пастаўскай мытні выйшла ініцыятыва аб правядзенні праверкі дзейнасці гоншчыкаў—індывідуальных прадпрымальнікаў. Вялікае спазненне.

У гэтай справе нямала нюансаў, якія патлумачыць няпроста. Напрыклад, аўтамабіль купляўся ў Літве за тысячу літаў, аб чым выдавалася адпаведная рахунак-даведка. Тысяча літаў гэта 250 долараў. Але на нашай мытні гоншчыку прапаноўвалі абазначаць кошт аўтамабіля у паўтары дзве тысячы літаў. З гэтай сумы і ішлі налічэнні. Але ж ніякай ацэначнай камісіі не было. Усё рабілася "на вока". Але абазначалі патрабуемыя сумы і плацілі, бо гэта было выгадна пры норме 0,35 еўра за кубік.

Ёсць яшчэ адзін цікавейшы нюанс. На мытні гоншчыкі пазначалі мэту выгану аўтамабіля з-за мяжы так: "для асабістага карыстання ў свабодны абарот". Незразумелы выраз? Але многае становіцца зразумелым , калі прачытаеш пісьмо, якое выйшла з Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь 4 жніўня 1999 года і падпісана намеснікам старшыні В.Гошыным. Яно называецца "Аб прымяненні актаў заканадаўства, якія рэгулююць увоз транспартных сродкаў фізічнымі асобамі ў якасці асабістай маёмасці."

**У пісьме гаворыцца:**

*"Такім чынам, у адносінах транспартных сродкаў, увезеных у рэспубліку ў якасці асабістай маёмасці і выпушчаных у свабодны абарот з уплатай мытных плацяжоў па адзінай стаўцы, прадугледжанай п.13.1 указанага палажэння, дазволу мытных органаў на іх выкарыстанне ў іншых мэтах, чым тыя ў адпаведнасці з якімі яны былі ўвезены, не патрабуецца.*

*Выкарыстанне такіх транспартных сродкаў іх уласнікамі альбо ўладальнікамі можа здзяйсняцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўства іншых галін права, у тым ліку і патрабаваннямі актаў заканадаўства, якія рэгулююць здзяйсненне прадпрымальніцкай дзейнасці."*

Усё нібыта становіцца зразумелым. Гоншчык якраз і выганяў аўтамабіль з выпускам яго ў свабодны абарот. Меў ліцэнзію на індывідуальную прадпрымальніцкаю дзейнасць і з лёгкай душой прадаваў яго. Але цяпер на душы нялёгка. Я вышэй расказваў пра Саўчука. А вось гоншчык А.Хаткевіч з Пастаў атрымаў рашэнне аб спагнанні з яго сумы, якая складае каля 28 тысяч долараў. Будуць яшчэ большыя сумы. Пачаліся вопісы маёмасці.

Да канфлікта падключыўся дэпутат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Пастаўскай выбарчай акрузе П.М.Розынка, які паслаў у Дзяржаўны мытны камітэт дэпутацкі запыт. На яго пакуль што адказу не атрымана.

А між тым на першую скаргу «гоншчыка», які ўжо атрымаў патрабаванне заплаціць гэтыя вялікія грошы, з Мытнага камітэту прыйшоў адказ, што Полацкая мытня ў сваіх патрабаваннях заплаціць выступае правільна, па закону. Ды толькі справа ў тым, што заплаціць такія сумы, у дзесяткі тысяч долараў, людзі проста не будуць мець магчымасці. Значыць, пачнуцца разборкі, канфіскацыі маёмасці на нейкія капейкі. Але ж гэтыя «капейкі» стануць горам для многіх і многіх сем'яў.

А чыноўнік заўсёды на кані.

***Алесь Касцень.***

# Гурток медыцынскіх ведаў – неабходнасць для маладога пакалення

**Дарослыя сёння "ламаюць галаву", чым заняць падлетка ў вольны час. Яго нястрымная энергія павінна быць накіравана ў добрае русла, інакш недалека да бяды. Гэту праблему сёння вырашыла кіраўнік унікальнага гуртка "Медыцынскія веды для падлеткаў" Марына Іванаўна Гараповіч. Яна згадзілася адказаць на пытанні, якія хвалююць тых, хто пачуў, што на занятках закранаюцца тэмы палавога выхавання.**

Пачатак дзейнайсці гуртка быў у 1996 годзе. Было ўсё сціпла: маленькі гурток, які наведвалі па 10 чалавек. Але паступова гэты гурток стаў больш сур'ёзным.

-- *А чыя была ініцыятыва стварэння падобнага гуртка?*

-- Мая асабістая. Я закончыла Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут, факультэт біялогіі і хіміі. А першая думка, якая ў мяне з'явілася, звязана з тым, што мая сяброўка пісала дыпломную работу па маральна-палавому выхаванню.

Я працую па аўтарскай праграме, але яна зацверджана ў вобласці ў 1997 годзе і цалкам узгоднена з рэспубліканскімі і абласнымі праграмамі маральна-палавога выхавання, усімі метадычнымі рэкамендацыямі, якія выдадзены Міністэрствам адукацыі.

-- *Ці ёсць вопыт правядзення гурткоў такога профілю ў нашым рэгіёне – Докшыцах, Паставах, Шаркоўшчыне?*

-- Я не магу сказаць дакладна, але па размовах з маімі калегамі, такіх гурткоў у суседніх раёнах няма.

-- *Ці былі на Вашым шляху перашкоды?*

-- Так, перашкоды ёсць. І звязаны яны перш за ўсё з непаразуменнем некаторых настаўнікаў і бацькоў, калі яны карыстаюцца чуткамі і не ведаюць праўды аб тым, што адбываецца ў час заняткаў.

-- *Ваш гурток – гэта гурток медыцынскіх ведаў, а палавое выхаванне – толькі частка яго праграмы?*

-- Наш гурток працуе ў чатырох накірунках. Першы – гэта маральнае выхаванне. Мы закранаем такія пытанні, як праблема кахання, душы, асаблівую ўвагу звяртаем на грэх прэлюбадзейства. Наступны накірунак – гэта сямейнае выхаванне. Я лічу, што інстынкт мацярынства і бацькоўства не фарміруецца ў дзяцінстве, яго трэба выпрацоўваць. У нас ёсць асобны блок, які так і называецца "Мацярынства і бацькоўства", дзе мы абмяркоўваем праблемы цяжарнасці, развіцця будучага дзіцяці, лячэння бяздзетнасці, штучнага апладатварэння і г. д. Вынік – у гурткоўцаў мяняюцца адносіны да маці, цяжарнай жанчыны. І гэта бачна па іх паводзінах. Да мяне звяртаюцца за парадамі, дапамогай нават зусім незнаёмыя падлеткі. Калі мы не можам вырашыць іх праблемы разам, то прыбягаем да дапамогі ўрачоў, псіхолагаў.



Яшчэ адзін накірунак – гэта палавое выхаванне, прафілактыка венерычных захворванняў і СНІДу. Асобная тэма – наступствы ранняга палавога жыцця. Я лічу, што падлеткі ўступаюць у палавыя сувязі не таму, што вельмі шмат ведаюць, а таму, што яны нічога не ведаюць.

Чацвёрты накірунак – гэта прававыя веды: адказнасць за распаўсюджванне венерычных захворванняў, за прастытуцыю, згвалтаванне. І канешне, гэта праблемы здаровага лада жыцця, правільнага харчавання, гігіены.

-- *Я заўважыў, што ваш гурток карыстаецца папулярнасцю, і на занятках часта няма месца.*

-- Так, падлеткі атрымліваюць веды, якія ім жыццёва неабходны. Пытанні, якія ў іх узнікаюць часцей за ўсё яны не могуць абмеркаваць з бацькамі, а тым больш з настаўнікамі. І тады яны ідуць да мяне. У нас вельмі актыўны творчы адпачынак. Мы надаём увагу кожнаму падлетку. Кожнага віншуем з Днём нараджэння, ладзім святы на дзень Святога Валянціна, 1 красавіка. Пад Новы год віншум дзяцей-інвалідаў. Вельмі цікавыя паездкі на турбазу ў Падсвілле, у Віцебск, Мінск. У канцы навучальнага года праводзім выпускны вечар.

-- *Як складваюцца адносіны з выпускнікамі Вашага гуртка?*

-- У мяне самыя цёплыя сяброўскія адносіны з выпускнікамі гуртка, яны заўсёды пра мяне памятаюць, прыходзяць у госці, тэлефануюць, пішуць лісты нават з войска. Паведамляюць аб стварэнні сям'і, нараджэнні дзяцей. У іх самыя лепшыя ўражанні пра гурток, а ў мяне – аб выпускніках. У нас ёсць нават сямейныя пары, якія пазнаёміліся тут, а потым пажаніліся. Гэта сям'я Бутарыных – Віталік і Аксана. Рабіза Дзіма і Наташа таксама нашы гурткоўцы.

Дзверы нашага гуртка заўсёды адчынены. Мы запрашаем усіх да супрацоўніцтва. Калі з'яўляюцца пытанні ў бацькоў, настаўнікаў, хай прыйдуць на заняткі і пагледзяць, папрысутнічаюць. Гурток працуе на Станцыі юных натуралістаў у панядзелак і сераду з 13 да 15 гадзін, у памяшканні СШ №3 займаюцца дзве групы з 12 да 15 гадзін, прыходзьце, будзем вам рады.

У гэтым годзе гурток адзначае юбілей, які мы будзем святкаваць у канцы года. Запросім сваіх выпускнікоў, а іх у нас каля 250-ці.

Кожны павінен сам адказаць на пытанне, ці патрэбен у школе курс палавога выхавання, асабліва калі ў Вас сын ці дачка – падлетак. Калі не, то такое выхаванне абавязаны даць бацькі ў сям'і. Добра, калі гэта так. Можа быць яшчэ адзін аргумент – які тут секс, калі майму (маёй) яшчэ толькі чатырнаццаць стукнула, дзіця горкае. А калі гэтае "дзіця" ў пятнаццаць трапляе да гінеколага і ёй ставяць дыягназ "цяжарнасць"? Хто не дагледзеў? Хто не выхаваў? А можа гэта звычайная цікаўнасць, а аб паследствах з падлеткам ніхто і не гаварыў?

Супрацоўнікі Глыбоцкага маладзёжнага цэнтра правялі апытанне сярод вучняў 9 – 11 класаў. Было апытана 107 вучняў трох гарадскіх школ. Яны прапанавалі старшакласнікам адказаць на даволі "шчакатлівыя" пытанні. Некаторыя вынікі мы прыводзім зараз, а Вы, паважаныя дарослыя, бацькі і настаўнікі, параўнайце, наколькі разыходзіцца наша ўяўленне аб бяскрыўдных паводзінах падрастаючага пакалення з рэчаіснасцю.

1. Адкуль вы бярэце інфармацыю па пытаннях сексу?

З кніг, газет, тэлевізара – адказала 86% апытаных;

ад бацькоў – 21%;

ад сяброў – 8%

ад настаўнікаў – 2%.

2. Ці вядзеце вы палавое жыццё?

Далі станоўчы адказ на гэта пытанне

8% дзяўчынак і 40% хлопцаў ва ўзросце 14год;

10% дзяўчынак і 22% хлопцаў 15 год;

18% дзяўчынак і 28% хлопцаў 16 год;

35% дзяўчынак і 46% хлопцаў 17 год.

Можа наспеў час прызнаць сваіх дзяцей дарослымі і пагаварыць сам-насам. А як Вы, паважаныя чытачы, ставіцеся да таго, каб юнакі і дзяўчаты атрымлівалі кваліфікаваную інфармацыю і дапамогу па праблемах адносін палоў у школе ці на пазакласных занятках? Прапаную абмеркаваць гэту тэму на старонках "Вольнага Глыбокага".

*Юрый Калбасіч*

**На здымку:** М. І. Гараповіч у акружэнні сваіх гурткоўцаў – старшакласнікаў СШ №1 і СШ №2.

# Непатрэбнае шкло

**У нашым горадзе вялікая колькасць гандлёвых кропак з шырокім асартыментам тавараў. Але хочацца паразмаўляць не пра тавары, а пра тару, у якую яны ўпакаваны. А менавіта пра шклотару.**

Кансервы мы набываем у шклотары самых разнастайных аб'ёмаў. Калі набываеш тавар у шклотары шматразовага карыстання, то паўстае пытанне: дзе, у якой кропцы горада яе вярнуць назад і атрымаць заплочаныя пры набыцці тавара грошы за посуд. І гэтае пытанне ўжо стала надзённым. Яно турбуе шматлікіх жыхароў нашага горада.

Звярнуўшыся ў буйныя гандлёвыя кропкі горада, аказалася, што здаць шклотару вельмі складана. Пры ўсім тым, што яны прапануюць вялікую колькасць прадуктаў у шклотары. Гандлёвая плошча двух універсамаў Глыбокага дазваляе вызначыць месца і арганізаваць прыём шклотары ў насельніцтва. Але такога няма, і паўстае пытанне: можа шклотара нікому не патрэбна? Аказваецца не. Прамысловыя прадпрыемствы рэгіёна і краіны маюць патрэбу ў шкляных бутэльках і банках розных аб'ёмаў. Больш таго, яны пакрываюць транспартныя расходы па дастаўцы тары, аплачваюць працэнты за колькасць прынятага посуду. Дык можа ёсць сэнс камерцыйным адзелам гандлёвых прадпрыемстваў, калі яны адпраўляюць аўтамашыну за таварам, загрузіць яе поўнасцю шклотарай. Гэта дазволіць больш эканамічна выкарыстоўваць аўтатранспарт, выключыць пусты прабег. А жыхары горада не будуць бяжаць набываць тавар у шматразовай шклотары, бо будзе вырашана праблема па звароту яе ў гандлёвыя кропкі.

Хацелася б успомніць наш кансервавы завод. Гэта прамысловае прадпрыемства працуе на шклобанках рознага аб'ёма. За гэтымі банкамі прадпрыемства адпраўляе "КАМАЗы" з прычэпамі нават у Магілёўскую вобласць на шклозавод. Калі надыходзіць сезон нарыхтоўкі, гэтыя машыны прастойваюць па некалькі дзён у чарзе за шклобанкамі. Вадзіцелям аплачваюцца камандзіроўкі, гэта пры тым, што такое цяжкое фінансавае становішча на заводзе. А не прасцей гэтаму ж прадпрыемству прымаць шклобанкі ад насельніцтва, як гэта было некалькі гадоў назад. Таксама можна прапанаваць насельніцтву за здадзеную шклотару прадукцыю завода. Адпаведна кошт прадукцыі можа быць ніжэйшы, чым у дзяржаўным гандлі, што зацікавіць насельніцтва. Таксама з'явяцца дадатковыя рабочыя месцы, і некалькі чалавек будуць забяспечаны працай.

Здавалася б, вельмі лёгка вырашыць гэтую праблему. Але ці возьмецца хто за гэта?

*Т.Сергіевіч*



*Фота IREX ProMedia*

# 8 Сакавіка -- свята жанчын

## З гісторыі свята

Гэта ўсімі любімае свята бярэ пачатак у старажытным Рыме ў I-м ст. да н.э. Лічылі, што багіня Юнона, суджэнка вялікага Юпітэра, была надзелена вялікай уладай, мела вялікія магчымасці. У яе было шмат імёнаў, Юнона-Календарыя, Юнона-Манета... Яна даравала людзям добрае надвор'е, ураджай, поспехі ў справах, адчыняла кожны месяц года. Але больш за ўсё рымлянкі схіляліся перад Юнонай-Люцыяй ("светлай"), якая заступалася за жанчын увогуле, асабліва пры родах. Яе ўсхвалялі ў кожным доме, ёй прыносілі дары пры ўступленні ў шлюб і пры нараджэнні дзіцяці.

Самым радасным для жаночай паловы Рыма было свята 1 Сакавіка, які быў прысвечаны гэтай багіні і зваўся Матронамі. Увесь горад мяняў аблічча, святочна апранутыя жанчыны ішлі з вянкамі кветак да храма Юноны-Люцыі. Яны маліліся, прыносілі ў дар кветкі, прасілі ў сваёй заступніцы шчасця ў сям'і. Гэта было не толькі свята для паважаных рымлян, але і для нявольніц, працу якіх у гэты дзень выконвалі мужчыны-нявольнікі. Мужчыны 1 Сакавіка дарылі жонкам, сяброўкам шчодрыя падарункі, не абыходзілі павагай служак і нявольніц...

Першы Міжнародны жаночы дзень 8 Сакавіка быў устаноўлены ў Капенгагене ў 1910 г. на 2-й міжнароднай канферэнцыі жанчын-сацыялістак па прапанове нямецкай дэлегацыі (у 1848 г., 19 сакавіка, прускі кароль паабяцаў даць жанчынам права голасу, але абяцанне не стрымаў). Сярод ініцыятараў была і Клара Цэткін. У канферэнцыі прынялі ўдзел больш за 100 жанчын з 17 краін.

Дзень 8 Сакавіка стаў лічыцца днём міжнароднай салідарнасці працоўных жанчын у барацьбе за свае правы. Пра гэта здарэнне пісала Аляксандра Калантай, якая стварыла адну з першых кніг пра Міжнародны жаночы дзень.

У першыню свята адзначалі ў 1911г. у Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі і Даніі 19 сакавіка пад лозунгам: "Выбарчыя правы працоўных – для аб'яднання сіл у барацьбе за сацыялізм".

У Расіі Міжнародны жаночы дзень у першыню адзначалі ў 1913г. у Піцярбургу. Яго арганізатары прызывалі дамагацца эканамічнага і палітычнага раўнапраўя жанчын. Адзін з наймагутнейшых выступаў жанчын прайшоў у Петраградзе 7 сакавіка 1917 г. А 1976 г. Міжнародны жаночы дзень быў афіцыйна прызнаны ААН.

Сёння 8 Сакавіка – гэта свята вясны і света, даніна павагі да традыцыйнай ролі жанчыны як жонкі, маці, сяброўкі.

## Пра мілых дам

Ледзі – жанчына, якая стварае такія ўмовы, пры якіх мужчыне застаецца толькі адно – быць джэнтэльменам.

***

Жанчына бывае загадкавай, мужчына – толькі незразумелым.

***

Жанчына, якая кажа Не, жадае пагутарыць.

***

Жанчыны паслядоўны ў сваёй зменлівасці.

***

Жаночая прыгажосць – разбуральная сіла, а дабрата – ўтваральная.

***

Жанчыну можна спытаць, чаму яна плача, але ніколі не трэба пытаць яе, чаму яна плакала: яна гэтага не памятае.

***

Першая жанчына была зроблена з матэрыялаў заказчыка.

***

Жанчына, яна як заяц, калі браць, то толькі за вушы.

***

Канчатковае рашэнне жанчыны рэдка бывае апошнім.

***

Жанчына не здраджвае ў двух выпадках: калі лічыць, што яе мужчына лепшы, ці калі лічыць, што ўсе яны аднолькавыя.

***

Калі жанчына не права, ідзі і папрасі прабачэння.


Фота IREX ProMedia

# Ваш характар і садавіна

***Апельсіны*** ўваходзяць у склад кожнадзённага меню мілых жанчын-"кошечек". Яны звышкамунікабельныя – агульную мову знаходзяць амаль з усімі людзьмі, незалежна ад іх сацыяльнага становішча. І галоўнае – "апельсіны", не жадаючы нікому быць цяжарам, аддаюць перавагу самастойнаму здабыццю свайго шчасця.

***Гарбузы*** любяць жанчыны, якія дасканала плануюць кожную хвіліну свайго жыцця. А калі трэба, не шкадуюць уласных і чужых сіл і часу дзеля таго, каб давесці задуманае да канца. Самы складаны клубок праблем жанчыны-"гарбузы" распутаюць абавязкова.

***Бананы*** — лепшы ласунак валявых, мужных ледзі. Яны, як генералы ў спадніцах, у любой справе ў перадзе "на лихом коне", не баяцца цяжкасцяў і адказнасці. Праўда, вельмі часта такія дамы падвяргаюцца меланхоліі.

***Вінаград*** выбіраюць вельмі скрытныя жанчыны. Такія не толькі не любяць разважаць аб сваіх унутраных болях і праблемах, але і ў акаляючых іх людзях перш за ўсё цэняць уменне захоўваць чужыя сакрэты. Гэтым дамам можна даверыць самае сакравеннае.

***Грушы*** любяць есці жанчыны, якія маюць шмат сяброў, і ў якіх спакойны характар. Яны лепшыя гаспадыні, добра гатуюць. Акрамя таго, у жанчын-"груш" ёсць мастацкі талент: прыгожа малююць і вышываюць.

***Персікам*** аддаюць перавагу ранімыя і сарамлівыя натуры. Бывае іх сарамлівасць пераходзіць усе межы, і здаецца, што гэтыя жанчыны—халодныя лялькі. А гэта зусім не так: за знешняй стрыманасцю "персікавыя" дамы хаваюць сваю пяшчотную душу.

***Клубніцы*** –ласунак дам, якія ўмеюць выбіраць прыгожыя, каштоўныя рэчы і мець асалоду ад іх.Такія жанчыны толькі для багатых мужчын.

***Слівы*** выкарыстоўваюць у ежу жанчыны, якія схільныя да палётаў у сне і наяве, а таксама да меланхоліі. Часам яны спускаюцца з нябёсаў на грэшную зямлю і надта паспяхова рэалізуюць свае мары ў творчасці. Праўда, жанчыны-"слівы" могуць здзейсніць непрадказальныя і неабмеркаваныя ўчынкі.

***Яблыкі*** выбіраюць практычныя, працоўныя "пчолкі". Яны вельмі кансерватыўныя ў сваіх звычках, цяжкія на пад'ём. Але калі ім удаецца ўстаць з любімага крэсла, іх ужо ніхто і нішто не прыпыніць."Яблыкі" заўжды гатовыя прыйсці на дапамогу блізкім людзям. У іх можна займаць грошы.


Фота IREX ProMedia

# Таму што таму...

**Рэдка калі хто з мужчын здольны прызнацца ў тым, што ён жадаў бы нарадзіцца жанчынай. Але будзьце ўпэўнены: вялікая колькасць прадстаўнікоў моцнага пола не супраць гэты самы пол змяніць. Чаму?**

♥ Таму што згодна статыстыцы, жанчына жыве на 5 год даўжэй, чым мужчына.

♥ Таму што менавіта мы, дамы, валодаем 6-м пачуццём – жаночай інтуіцыяй, зразумець якую мужчына проста не можа.

♥ Таму што мы больш прывабныя, чым мужчыны.

♥ Таму што мы нараджаем дзяцей, менавіта мы, жанчыны.

♥ Таму што не стамляемся ад доўгай размовы па тэлефоне з сяброўкай.

♥ Таму што цэлая касметычная індустрыя прызначана ў першую чаргу для нас, прыгожых дам. Каб мы сталі прыгажэй.

♥ Таму што ў дыскусіі высвятлення адносін у канцы канцоў заўжды апынаемся правы мы, жанчыны.

♥ Таму што нам не трэба пераадольваць сябе, каб сказаць пры ўсіх: "Я цябе кахаю!"

♥ Таму што (па статыстыцы) з жанчынай за рулём аўтамабіля адбываецца ў два разы менш няшчасных выпадкаў, чым з вадзіцелем – мужчынам.

♥ Таму што ў нас не вырастае жывот ад непамернай любові да піва.

♥ Таму што большую частку шафы займаюць жаночыя ўборы.

♥ Таму што нам не даводзіцца турбавацца, калі мы вельмі прывязаны да любімай мамачкі.

♥ Таму, нарэшце, што цалкам быў правы паэт, які сказаў: "Бог – это женщина, а не мужчина!"

*Падрыхтавала старонку Смоткіна Таццяна*

# Сустракайце: вашы суседзі - Докшыцы

**У большасці сваёй глыбачан, ці горад Глыбокае ведаюць па турме і згушчонцы. Канешне, можа, гэта гучыць нейк недаспадобы, але гэта звычайная канстатацыя факта, ад якой нікуды не схаваешся.**

**А чым жа знакамітыя Докшыцы? Докшыцы і Глыбокае, горад гораду – розніца. Пачнём наша знаёмства з правінцыяльным гарадком.**



## Крыху гісторы

Упершыню Докшыцы ўпамінаюцца ў 1407 годзе. Належалі Манівідам, Гальшанскім, Радзівілам, Кішкам… У 1621 годзе атрымалі статус мястэчка, а ў 1795-м – горада. З 1796 года Докшыцы маюць свой герб: на



зялёным полі два ўзгоркі, на іх ляжаць збаны, з гарлавін якіх цякуць сярэбраныя крыніцы. З 1797 горад у складзе Барысаўскага павета і зноў называецца мястэчкам. У 1800 годзе ў Докшыцах 152 двары з 118 жыхарамі, яўрэйская школа і дзве ўніяцкія царквы. А ў канцы 19 стагоддзя тут ужо два мураваныя і каля 400 драўляных дамоў, звыш 5600 жыхароў, 2 пачатковыя школы, 2 гасцініцы, 2 суканавальні. Докшыцы з 1921 года "пад Польшчай", а з 1939-га ў складзе БССР. У 1940-м горад цэнтр раёна. У час Вялікай Айчыннай вайны акупіраваны фашыстамі, якія ў Докшыцах і ў раёне знішчылі каля 5 тысяч чалавек, 107 спаленых вёсак. На гарадской плошчы пахаваны Герой Савецкага Саюза Іван Сцяпанавіч Палявы, імем якога названы школа, плошча і вуліца.

## Хто яны – дакшыччане?

Дакшычан сёння больш, чым 7 тысяч. У горадзе знаходзяцца два прамысловыя прадпрыемствы – хлебазавод і малаказавод, райсельгасхімія, райсельгастэхніка, будаўнічыя арганізацыі… дзве агульнаадукацыйныя школы, садкі, дзве бібліятэкі, цэнтр культуры, школа мастацтваў…

Кожная раніца ў горадзе асаблівая. На дварах яшчэ люты, а адчуванне веснавога позірку, чаканне нечага даволі незвычайнага ўжо апаноўвае цябе. Сонейка шчыра прыгрэвае, усміхаецца, асляпляе яркім святлом. Пачатак дня, новы подых, новы настрой. Людзі спяшаюцца на працу. Якія яны дакшыччане? Звычайныя людзі, адметныя сваёй гаворкай, дзейнасцю, думкамі. Кожны з іх асоба, індывідуальнасць. На вуліцы – гэта звычайны натоўп, а дзесьці там, за сценамі будынкаў, на сваім рабочым месцы выяўляецца іх характар, учынкі, здольнасці. Хто спяшаецца, незаўважаючы астатніх, засяроджваючы ўвагу над сваімі думкамі, хтосьці са шчырым тварам усміхаецца і вітаецца са знаёмымі. Яны ўсе такія розныя. Канешне, прадпрымальніцкай хватцы і руплівасці трэба вучыцца ў глыбачан, у генах якіх здаўна ўкараніўся дух прадпрымальніцтва. Але Докшыцы ўсё ж такі стараюцца… гэтаму сведчыць гандлёвая сетка прыватных магазінаў: "Наш выбар", "Кіпарыс", "Візіт" і інш. Народ пачынае варушыцца, ды яшчэ як. Кожнаму свой час, а прыватны бізнес – гэта справа часу.




## Асаблівасці горада

Цэнтр захаваў гістарычную планіроўку 17 стагоддзя.

Докшыцы… Спакойная, ціхая і даволі своеасаблівая правінцыя:простыя нявычурны дызайн вуліц, адметная афарбоўка будынкаў.

Будынак банка (здымак 2), нядаўна пабудаванага, прыцягвае погляды прыязджаючых сваім нязвыклым выглядам, уражвае нестандартнасцю. Індывідуальнасць і арыгінальную глыбіню праекта падкрэслівае купал у выглядзе піраміды. Яшчэ старажытная Грэцыя лічыла, што піраміда – гэта злучэнне станоўчых уплываў энергетыкі і абарона ад негатыўных з'яў. Будынкі, вуліцы – гэта знешняя абалонка горада, а яго ўнутраны механізм – людзі, якія надаюць яму рух наперад.

Стары горад месціцца на ўскраінах, а за возерам паблісквае вокнамі катэджаў новы раён. Само возера (здымак 3) – адно з цудоўнейшых месц у горадзе. Улетку – там рыбу вудзяць, зімой – з задавальненнем ідуць на каток. Менавіта каля возера праходзяць масавыя гулянні на вялікай канцэртнай сцэне. За ёй знаходзіцца парк. Розныя вырабы з дрэва ўпрыгожваюць яго. Гэта церамкі, лоўка змайстраваныя арэлі, невялічкія масткі, лаўкі. Зрабілі гэта хараство работнікі Бягомльскага лясгаса. Калі знаходзішся там, то здаецца, што ты ў невераготнай казцы, дзе няўрымслівыя чараўнікі здзяйсняюць свае цуды. Арыгінальная задумка, творчасць, разнастайнасць духоўнай прыгажосці дакшыччан увасабляецца ў гэтых памайстэрску зробленых творах мастацтва. Заўсёды там можна адпачыць, асабліва ўлетку, у сонечны дзень. Палюбавацца возерам, сесці на вычурную, надзвычай неардынарную сваім дызайнам лаўку-крэсла і паразважаць аб існуючым на Зямлі.

Частка жыхароў, у тым ліку, канешне, і моладзь горада наведвае Пакроўскую царкву, уведзеную ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя, а частка пабудаваны нядаўна касцёл (здымак 4). Дзейнічае нядзельная царкоўная школа.

## Адпачынак

Які адпачынак у дакшычан? Дзе адпачывае моладзь? Чым займаецца?




Дзя моладзі існуе культурна-аздараўленчы цэнтр "ГРАНТ". Гэтым цэнтрам курыруе БПСМ, фінансуе райбюджэт. На базе цэнтра дзейнічаюць 4 клубы: "Асілак" – трэнажорная зала для мужчын, "Грацыя" – трэнажорная зала для жанчын, "Класік" – для аматараў більярда, "Байт" – камп'ютэрны клас. У цэнтры знаходзіцца салон прыгажосці "Дзіона" – гэта дзіця прыватніка. Прапануюць свае паслугі кафэ "Заранка", музычныя пятніцы рэстарана "Беразіна", і канешне, сёння вялікім попытам карыстаецца наведванне новага кафэ "Александрыя". Менавіта гэта кафэ-навінка прадстаўлена ў новым еўрадызайне, нягледзячы на тое, што яно дзяржаўнае. Канешне, не глыбоцкі "Неон", але … цывілізацыя…

Крымінал, начныя жахі, момантам крадзяжы, розныя злачынствы ёсць і ў нашым раёне, як і ў іншых, не без гэтага. Ёсць нам, што вам расказаць цікавага, пазнавальнага, недзе смешнага і даволі павучальнага. Галоўнае, шаноўныя, чытайце і цікаўцеся.

Больш падрабязна аб талентах докшыцкай зямлі, творчых асобах, падзеях, якія адбываюцца у вашых суседзяў-дакшыччан, вы даведаецеся ў наступных нумарах "Вольнага Глыбокага".

*Жанна ДЗІСКО*

*(Фота аўтара)*

# Докшыцкі рынак

**Яшчэ ў далёкай мінуўшчыне, дзесьці ў XVII стагоддзі кірмашы ў Докшыцах праходзілі па аўторках. Сёння XXI стагоддзе, усяго там некалькі стагоддзяў прайшло, пятніца – стаў базарны дзень, як у Глыбокім – нядзеля, у Шаркоўшчыне – субота. Усё размеркавана.**

У гэты дзень з самай раніцы ціхі спакойны гарадок набывае іншы выгляд: у цэнтры шурудзяць гандляры, размяшчаючы свае палаткі, з навакольных вёсак з'язджаецца вясковы люд, каб набыць неабходныя рэчы і пры гэтым уладкаваць асабістыя справы ў райцэнтры. Дзіўна, але па-асабліваму цікава назіраць за гэтым натоўпам, які з'яўляецца пульсам горада. Менавіта ў гэты дзень, як ніколі, халоднае паветра лютага надвор'я саграваюць гоман, спрэчкі, нязвыклы настрой…

Пятніца ў адных рабочы дзень, у іншых…, а якая розніца: каму трэба на рынак, той будзе там, прычына знойдзецца. А пытанне накшталт, чаму ты не на працы, ужо даволі састарэла і страціла сваю злабадзённасць. Менавіта ў базарны дзень можна сустрэць шмат знаёмых, сяброў, і нават тых людзей, якіх даўно ўжо не бачыў і запамятаваў, як яны выглядаюць. Побач з рынкам і райвыканкам і іншыя дзяржаўныя ўстановы, канешне, патрэбна, каб і чыноўнікі вырашалі самыя надзённыя пытанні рыначнай мітусні. Не здзіўляйцеся, так яно бывае.

Рынак знаходзіцца ў цэнтры горада, але за апошні год – гэта месца стала для яго цесным і неўтульным. Ён вылез за межы, устаноўленыя ўладамі, і займае амаль усю цэнтральную плошчу, якую ўпрыгожвае вялізны ўладар усіх часоў і народаў – У.І.Ленін. Менавіта ён ахоўвае палаткі гандляроў. Запоўнена месца за гасцініцай для стаянкі аўтамабіляў. Да Цэнтра культуры нельга не прайсці не зазірнуўшы спачатку на харчовыя прылаўкі, потым краем вока на адзенне. Гандляроў заўжды больш, чым пакупнікоў, дзенідзе бачны чэргі. Зразумела, што месца для рынка трэба і ніяк ні ў цэнтры горада. Канешне, несумненна: цэнтр – зручна, хутка і добра, а што будзе далей? Пэўна ў хуткім часе гандляры пачнуць атаку дзяржаўных магазінаў зверху, бо сапраўды, расшыраццa няма куды…а ці патрэбна?